# Самапомач Гаспадарам

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

**Год VII. Вільня, Люты 1938 г. № 2 (76).**

*Аб чым піша «Самапомач»:*



**Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.**

# Бунт процiў „чырвонай небясьпекi“

Наперад увага, што пiшам тут не аб палiтычнай небясьпецы з усходу, але аб гаспадарчай — з захаду. Аб гэтай справе ў будучынi можа напiшам разважаньне паўнейшае. Сягоньня-ж агранiчымся да мамэнтаў найагульнейшых.

У сяньняшнiм нумары „Самапомачы“ падаём кароткую вестку аб тым, што йдуць прыгатаваньнi да прымусовага застасаваньня ў колькiнаццацёх гмiнах нашага краю гадаўлянага закону да авечак. Раней была вестка аб тым, што гэты-ж самы закон пачынаюць ужо ў нас застасоўваць да скацiны. Што ўсё гэта знача?

Гаворачы ясна й коратка, па нейкiм часе кожны гаспадар, якi захоча на плем пакрыць сваю карову, авечку цi iншую жывёлу, будзе змушаны ўжываць да гэтага племнiка ня першага-лепшага, анi нават такога, якога зажадае з сьведамага свайго выбару, а толькi такога, якога паставiць у ягоным вокрузе Земляробская Палата цi хто iншы з ейнага ведама. А дзеля таго што патомства ў жывёлагадоўлi йдзе прад усiм па племнiку, дык атрымаецца такое патомства, якое падыктуе чыноўнiк (iнспэктар) Земляробскай Палаты, каторы гэтага племнiка паставiць.

Як бачым, усё зводзiцца да таго, што за гаспадара-гадавельнiка будзе думаць i пастанаўляць нехта iншы, хто ягонай гаспадаркi нiколi ня бачыў, i хто за ейныя няўдачы зусiм не адказвае.

Для чалавека, для якога гадаўляныя законы зьяўляюцца нечым няведамым, а прынамсi няпэўным, усё гэта мала знача. Зусiм iнакш з тымi, хто ў гадоўлi разьбiраюцца. А гэта якраз i сталася з гадоўляй скацiны.

Як толькi кончылася вайна, розныя „колы“ i „кулкi“ пачалi да нас масава прывозiць „чырвона-польскiх“ кароў i такiх-жа племнiкаў, вельмi iх хвалячы. Прайшло аднак колькi год i паказалася, што гэтыя захваляныя каровы, асаблiва ў паўночнай Вiленшчыне, зусiм сябе не апраўдалi. Спачатку пацiху i на вуха, а пасьля штораз галасьней, пачалi людзi аб гэтым гаварыць i дамагацца, каб да нас перасталi прывозiць „чырвоную скацiну“, называючы яе проста *чырвонай небясьпекай.* Асаблiва стойкай пры гэтым аказалася Дзiсьненшчына й сумежныя землi, якiя замест прывозiць скацiну здалёку, пачалi вышукiваць лепшыя штукi скацiны мясцовай. Адпаведным даглядам i кормам дапрацавалiся гадаўцы з успомненых земляў да таго, што ўжо маюць асобны свой саюз, якi назвалi саюзам гадаўцоў скацiны „паўночнай“ цi „паўночна-польскай“, хоць куды справядлiвей было-б назваць яе „Дзiсьненскай“ цi агулам „Вiленскай“.

Гэтым аднак змаганьне йшчэ ня скончана. За мясцовай скацiной прамаўляюць рэзультаты навуковых досьледаў i практыка, а процiў яе — прывычка да „скорай працы“ i iнтэрас уплывовых экспартэраў да нас чырвона-польскiх племнiкаў —Хто пераможа? Безстаронна прыглядаючыся да гэтых спрэчак трэба сьцьвердзiць, што на нашай зямлi мае будучыню разьвiцьця толькi ўсё тое, што з яе вырасла: гэтак з расьлiнамi, гэтак з усякай жывёлай, гэтак i з самым — чалавекам!

# Комасацыя—хутары

## Што зроблена і што чакае?

Карысьць і патрэбу комасаваньня (пераходу на хутары) не разумее сягоньня хіба толькі астатні цёмны чалавек, які найчасьцей рахуецца пры гэтым нейкім злосным самалюбствам. Дзеля гэтага проста пярэйдзем да падлічэньня, што ў гэтым кірунку у нас—Віленшчына і Наваградчына—зроблена і што на найбліжэйшую будучыню зрабіць трэба.

Пачаткі комасацыі ў нас былі зроблены па 1906 г., калі па ўсей даваеннай Расеі пачалася ведамая зямельная рэформа Сталыпіна. Асабліва шпарка пайшла гэта праца па 1911 г. Ад гэтага часу і да вайны (да 1914 г.) ў Віленшчыне было скомасавана каля 300 вёсак з агульным абшарам 45.000 га., а ў Наваградчыне — каля 90 вёсак, абшарам 40.000 га. Трэба зазначыць, што ўсе кошты зьвязаныя з комасацыяй у той час аплачываў сам расейскі ўрад і яшчэ даваў пазычкі на загаспадараваньне на новых хутарох.

Вайна на доўгія часы прыпыніла пераход нашых вёсак на хутары. А патрэбы былі вялікія. Нескомасаваных было ў Віленшчыне больш 9 тыс. вёсак, з 175 тыс. гаспадарак, на абшары 1.5 (паўтара) міл. гэктараў, а ў Наваградчыне больш 3 тыс. вёсак, з 195 тыс. гаспадарак на абшары 1.2 міл. гэктараў. Ад 1920 да 1926 г. на ўсім успомненым абшары было скомасавана 1900 гаспадарак, на абшары 24 тыс. га. Большае ажыўленьне пры комасацыі зазначылася ад 1926 г. Агулам-жа да 1936 г. у Віленшчыне было скомасавана 47 тыс. гаспадарак, на абшары 450 тыс. га., а ў Наваградчыне — 71 тыс. гаспадарак, на абшары 524 тыс. га. Калі гэтыя абсалютныя лічбы перавесьці на працэнты, дык атрымаем, што ў Віленшчыне скомасавана ўжо 30 прац. абшару вясковых гаспадарак, а ў Наваградчыне—42 прац. У апошніх гадох у сярэднім йшло пад комасацыю ў Віленшчыне па 50 тыс. га., а ў Наваградчыне—па 65 тыс. га. Калі комасацыя і далей будзе йсьці гэткай мерай, дык рахуюць, што ўся Віленшчына пярэйдзе на хутары (скомасуецца) за 20 гадоў, а Наваградчына — за 15 гадоў.

Вялікай перашкодай у працы над дальшай комасацыяй нашых вёсак ёсьць нястача зямельных запасаў на прырэзку. Складаюцца на гэта дзьве прычыны: дзікая парцэляцыя вольных абшараў і палітыка насаджваньня на гэтых абша-

## Ziemlarobstva ŭ Madziarščynie

Madziarščyna ci Vuhorščyna lažyć u siaredzinie Eŭropy i da suśvietnaj vajny była sučastkaj aŭstra-vuhorskaj monarchii. Pa vajnie Madziarščyna pierachodziła šmat usiakich pieramienaŭ i siahońnia źjaŭlajecca konstytucyjnaj monarchijaj. Zamiest karala maje regenta (apiakuna), jakim ad pačatku i da siahońnia źjaŭlajecca admirał Horthy. Sučasnaja Madziarščyna heta tolki 27 proc. abšaru Madziarščyny davajennaj: rešta abšaru adyjšla razam z nasialajučymi jaho narodami da dziaržavaŭ susiednich: Čechasłavaččyny, Rumynii i Juhasłavii, dzie hetyja narody žyvuć žyćciom niezaležnym. Stalicaj Madziarščyny jość h. Budapešt ci prosta Pešt nad rakoj Dunajem. Hrošy madziarskija nazyvajucca p e n g ö. Nasielnictva—kala 8 miljonaŭ—sučasnaj Madziarščyny pieravažna samyja madziary (88 prac.), krychu słavakaŭ, niemcaŭ, žydoŭ i rumynaŭ. Pa vieravyznańni madziary ŭ 60 proc. kataliki, rešta ŭsiakich kirunkaŭ protestanty.

Hałoŭnaje zaniaćcie žycharaŭ—ziemlarobstva. Pryrodnyja varunki da hetaha ŭ Madziarščynie dobryja; horš z varunkami haspadarčymi. Z ahulnaha abšaru ziemlarobskaha hruntu 16.150.000 marhoŭ*, bolš jak adna tracina (5.383.000 marhoŭ) naležyć da 1.100 abšarnikaŭ. Niekatoryja z abšarnikaŭ majuć da siahońnia jšče bolš pa 220 tys. marhoŭ ziamli. Dy i naahuł u ŭsiestaronnym žyćci krainy vialikuju rol ihraje šlachta, jakoj tut jość vielmi šmat.

Niasumiernaść u padziele ziamli pamiž abšarnikami i sialanami ŭ Madziarščynie jašče ŭ min. stahodździ była pryčynaj zabureńniaŭ, časta vielmi kryvavych. Nanova pačali ab hetym dumać pa skan-

*) adzin morh maje 5.500 kv. metraŭ, a adzin hektar—10.000 kv. metraŭ.

рах людзей прыездных. І адно і другое забрала і цяпер яшчэ забірае абшары, якія маглі-б быць выкарыстаны на прырэзку для мясцовага жыхарства пераходзячага на хутары.

Дальшай перашкодай масавага пераходу на хутары ёсьць за высокая — у параўнаньні з ураджайнасьцю нашых зямель — такса, якую павінны аплачываць уласьнікі комасаваных гаспадарак. Абрахована, што пры сяньняшнім насіленьні працаў, сяляне Віленшчыны і Наваградчыны сплачваюць у форме таксаў у год 1.5 міл. злотаў. Калі далучыць да гэтага йшчэ кошты перанясеньня й пераўстройства скомасаваных гаспадарак, дык гэты цяжар акажыцца вельмі вялікім.

Перадумаўшы ўсё гэта, земляробы нашы пры кожнай адпаведнай магчымасьці праз прадстаўнікоў сваіх павінны дамагацца:

1. зямлі на прырэзку для скомасаваных гаспадарак,

2. абніжэньня, а нават і скасаваньня — як было пры Расеі — мэліорацыйных таксаў (13—15 зл. ад гэктара),

3. будаўлянага дрэва з казённых лясоў на будынкі,

4. фаховай агранамічнай апекі над скомасаванымі гаспадаркамі.

А. К.

# Раньняя бульба.

Пад вялікімі гарадамі карыснай можа быць гадоўля раньняй бульбы. Зямлю пад гэткую бульбу трэба выраблящь вельмі старанна і звосені йшчэ — асабліва на цяжэйшых грунтох — выгнаіць хляўным гноем. Вясной можна гнаіць толькі гноем добра перапрэлым.

Агульнае пры гэтым правіла, каб бульба была як толькі можна найранейшая. Трэба дзеля гэтага наўперад выбіраць раньні сорт самай бульбы, якая да таго ўжо павінна быць прарошчанай. Гэта прарошчываньне выконваецца гэтак. Выбіраюцца бульбіны цалком здаровыя і раскладаюцца ў сьветлым (але не на сонцы!) цёплым (10—15°Ц) памяшчэньні. Ведама, што ў цёплых варыўнях пад вясну бульба таксама прарастае але расткі гэтыя, ад недастатку сьвятла, бываюць тоненькія, белыя, даўгія, крохкія, хутка абламываюцца. І наадварот, гэтыя самыя расткі, але пры дзенным расьцярушаным сьвятле будуць кароткія, затое грубыя, моцныя і ня ломкія. Бульбіны прызначаныя да прарастаньня раскладаюцца на паліцах у двары (ня грубей) рады, каб да іх мела доступ сьвятло. Найлягчэй ідзе работа, калі бульбіны прызначаныя да прарастаньня раскладаць у плоскіх скрынях.

čeńni suśvietnaj vajny, asabliva paśla sproby kamunistyčnaha pieravarotu Beli Kuhna. Ale jak tolki minuła niebiaśpieka nasilnaha adabrańnia ziamli, dyk tyja-ž abšarniki patrapili ŭsiu „reformu“ paśpiešna končyć. Za čatyry hady ziamielnaj reformy (1921—1925) ŭ Madziarščynie z ruk abšarnikaŭ u ruki małaziamielnych i biezziamielnych sialan ahułam pierajšło 927.000 marhoŭ ziamli, jakaja była padzielena pamiž 400.000 čałaviek (haspadaroŭ); znača kožny haspadar dastaŭ nadzieł kala 1$^{3}/_{4}$ marha. Kali pryniać pad uvahu 4.800.000 ziemlarobskaha nasielnictva Madziarščyny, dyk pieraličanyja 4.00.000 „ščaśliŭcaŭ,“ jakija dastali pa niacełych 2 marhi — heta sapraŭdy kapla ŭ mory.

Aprača ŭspomnienych nadziełaŭ čysta haspadarskich, byli jšče nadzieły budaŭlanyja — placy pad budovu chaty dla biezziamielnych i drobnych parabkoŭ, a tak-ža nadzieły dla „pieramožcaŭ“ — ludziej zasłužanych prad baćkaŭščynaj.

Usie hetyja zachady nad papravaj doli madziarskaha sialanstva dahetul adnak dali tolki słabyja rezultaty i jak heta vidać z apisańniaŭ samych-ža madziarskich hazet, žyćcio hetych ludziej sapraŭdy žaluhodnaje. Dy i pisać ab hetym u Madziarščynie nia tak užo biaśpiečna. Adno takoje apisańnie pranikła ŭ presu („Magyar Secule“) z pryčyny sudovaha pracesu ŭ mai 1937 h. prociŭ 113 sialanam, jakija byli abvinavačany ŭ buntarstvie prociŭ panoŭ i dziaržavy. Vot-ža hetyja abvinavačanyja mieli na sabie tolki padziortyja nahavicy i marynarku, nivodzin z ich nia mieŭ na sabie saročki (kašuli). Usie jany da niepaznańnia prybityja horam i niedastatkam u svaich chatach. Davoli zaciemić, što 48 prac. madziarskaha sialanstva nia maje svaje sobskaje paścieli.

Palityčnaje j hramadzkaje ŭśviedam-

Разьмеры такой скрыні могуць быць наступныя: 55 см. удоўжкі, 27 см. — ушыркі і 10 см. углыбкі. Паверх на 20 см.—упоперак — такой скрынкі даецца ручка з драўлянай ліштвы ў паўтара см. ўгрубкі. Пазваляе гэта састаўляць скрынкі ў колькі і нават колькінаццаць радоў адну над другой; займаюць яны тады мала месца. Каб добра прарасла бульба, трэба трымаць яе праз месяц пры тэмпэратуры 10°Ц. Чым вышэйшая тэмпэратура, тым хутчэй прарастае бульба. Практыка аднак паказала, што найздаравейшыя расткі пускае бульба пры 10°Ц і ня вышэйшай як тэмпэратура хатняя (15°Ц).

Найлепшая бульба да саджэньня важыць каля 50 грамаў (пяць дэка, або йнакш 20 бульбінаў на адзін кілёграм). На адзін гэктар выходзіць гэткай бульбы каля 20q*). Чым лягчэйшая зямля, тым бульбіны могуць большыя і тады больш выходзіць такой садзьбы на адзін гэктар. Гэткую раньнюю бульбу найлепш садзіць радкамі, адзін ад другога на 50 см., а ў радкох бульбіна ад бульбіны садзіць на 30—40 см. Калі гатунак бульбы добра падабраны, дык з прарастанай садзьбы можна мець бульбу прынамся на два тыдні раней, чым з садзьбы непрарастанай. Калі такую прарастаную садзьбу садзіць, залежа гэта

*) q=квінталь ці цэнтнар=100 кілёграмаў.

# Высокая дойнасьць -- бяз пашаў фабрычных.

Казалі мы ўжо ня раз, што ў собскай гаспадарцы выраблена паша ёсьць найтанейшай і таму найлепш забесьпячае аплатнасьць жывёлагадоўлі. Сярод нашых дробных гаспадароў пануе такое пераканаьне, што калі б нават сваей пашы было шмат, дык каб мець даволі малака, патрэбны на гэта дадатак па-

ад пагоды і наагул ад раньняй ці познай вясны. У кожным разе рызыка вясеньніх прымаразкаў тут ёсьць і з гэтым трэба лічыцца.

Раньняя бульба сходзіць з поля ўжо да паловы ліпня і таму занятае ей поле можна таго самага лета йшчэ выкарыстаць на пасеў расьлінаў іншых, перад усім пашных, як усякія мешанкі стручковыя, сонешнік, кукуруза й інш. Выгодная цана за раньнюю бульбу і магчымасьць выкарыстаць тое самае поле пад другі пасеў у тым-жа годзе — усё гэта панукае рупнага гаспадара добра абрахаваць, ці і яму не аплацілася б заняцца прыгатаваньнем да пасадкі раньняй бульбы.

Паз.

leńnie sialanskich masaŭ u Madziarščynie vielmi nizkaje. Na pieraškodzie hetamu niastača ahulnaj aśviety (16 prac. zusim biazhramatnych). Blizu ŭsie stanoviščy na madziarskim siale zajmaje šlachta, jakaja šlachtu i padtrymlivaje. Sialanskaha pachodžańnia sustrakajecca tolki duchavienstva, jak katalickaje, tak i protestanckaje.

Kali havaryć ab dalšych pryčynach tak nienadziejnaha stanu madziarskaha sialanstva, dyk treba śćvierdzić, što kareńnie zła znachodzicca ŭ ziamielnych paradkach: na adnym kancy staić tut pan—šlachcic, a na druhim — sialanski proletarjat. Siaredziny — zamožnaha samaviedamaha niezaležnaha sialanstva ŭ Madziarščynie tak jak i niama. Tamu ŭ Madziarščynie — hetaj typova sialanskaj krainie — nia možna susim havaryć ab sialanstvie, jak čyńniku haspadarskim i palityčnym. Sposaby haspadarki tut jašče samyja staraśvieckija: niama patrebnych ziemlarobskich mašyn i snaści, nia ŭžyvajuć štučnych hnajoŭ, nie pravodzicca melioracyja. U niekatorych vakolicach Madziarščyny da siahońnia jšče zachavalisia astatki sumiesnaha haspadarańnia na hruntoch adnaje vioski: vydzialajecca tracina pola, na jakoj, pavodle losu, adzin hod haspadara adzin haspadar, a na druhi j dalšyja hady—mohuć haspadaryć haspadary inšyja. Dziela hetkaj niapeŭnaści nichto nie starajecca ani dobra abrablać ziamli, ani jaje hnaić, bo nia peŭny, ci na hetym kusku budzie dalej haspadaryć. — Pieraškadžaje racyjanalna haspadaryć tak-ža niastača abarotnaha kapitału. Zmušaje heta sialan karystacca z darahich pazyčak „z pad pały," jakija davodziać sialan da žabrackaha kija; tymbolš, što sialanskija haspadarki da siahońnia nia majuć jašče ŭparadkavanaj hipoteki.

Ciažka tak-ža adbivajecca na madziarskim sialanstvie zvyčajovaje prava ab

шаў фабрычных, якія можна дастаць толькі за гатоўку. А дзеля таго, што дробны перад усім земляроб вольнай гатоўкі мае вельмі мала, дык і думае, што большай малочнасьці ад сваіх кароў ён ніколі і ня можа спадзявацца. Гэткае разуменьне справы аднак няправільнае.

Малочнасьць каровы залежа ад таго, як многа дастае яна ў пашы гэтак званага страўнага бялка. Чым больш хочам атрымаць ад каровы малака, тым больш мусім даць ей гэтага бялка, ня лічачы, натуральна, тае часьці пашы, якая патрэбна карове дзеля ўтрыманьня сябе пры жыцьці.

Шмат бялка, як ведама, ёсьць у пашах фабрычных, як атрубы, макухі, усякага гатунку мука і г. д. Але ці-ж бялок знаходзіцца толькі ў гэтай пашы, а ў іншай зусім яго няма? Нічога падобнага! Ведаем цэлы рад пашаў, якія земляроб можа выпрадукаваць сам, і каторыя таксама багаты на бялкі, як і гэныя. Для прыкладу назавём такія расьліны, як мурожная трава і сена з яе, канюшына, люцэрна, сэрадэля, усякія расьліны стручковыя, як віка, гарох, пялюшка і г. д. Усе гэтыя расьліны маюць у сабе вельмі шмат бялка і ўсе яны могуць быць выпрадукаваны ў самай гаспадарцы. Розьніца толькі тая, што купляныя (фабрычныя) пашы займаюць менш месца, а пашы вырабленыя ў гаспадарцы займаюць гэтага месца больш. А дзеля таго, што і тая і другая паша мае ў сабе бялко, дык адна з гэтых паш можа быць заменена другой. Адна толькі пры гэтым труднасьць: каб рахуючыся з абыймом стравaтраўчых органаў каровы, даваная ей хатняя паша мела даволі патрэбных бялкоў і не займала за шмат месца. Бо, бяручы ўсё на розум, можна было-б даць карове даволі бялкоў і ў саломе, але тады саломы такой трэба было-б даць так многа, што трыбух ейны ня мог-бы памясьціць.

У Нямеччыне здаўна ў шмат гаспадарках каровы кормяцца выключна пашай гаспадарскай, без дакупліваньня пашаў фабрычных, а трэба памятаць, што там-жа карова, якая дае менш як 12 літраў малака ў дзень, ідзе пад нож як незаслугоўвуючая на гадоўлю. Бачым з гэтага, што высокая малочнасьць каровы зусім магчымая і без дакупліваньня пашаў фабрычных. Вырахавана пры гэтым, што карова, якая атрымоўвуе ў дзень 6—7 клг. сена, 15—20 клг. кішонкі з расьлінаў стручковых, 25—30 клг. пашных буракоў і 20 літраў вывару, без дадатку пашаў фабрычных, давала 14—15 літраў малака. Гэты прыклад пацьвярджае, што купляньне фабрычных пашаў зусім ня ёсьць канешным, каб карова давала шмат малака.

Усё гэта паказвае, што высокавартасныя але і дарагія пашы фабрычныя

---

spadku, pavodle jakoha ŭsia haspadarka pa śmierci — a to jšče i za žyćcia — haspadara dzielicca roŭnymi čaściami pamiž usich synoŭ i dačok. Viadzie heta da niačuvanaha razdrablańnia i biez taho ŭžo drobnych sialanskich haspadarak.

Pamima ŭsiaho hetaha što raz bolš pranikaje da madziarskaha sialanstva klič, što *ziamla naležyć da tych, chto na joj pracuje.* Bačać heta i bolš praniklivyja madziarskija palityki, skul by jany nie pachodzili. Sučasny premjer Daranyi, jašče jak ministr ziemlarobstva, u 1936 h. złažyŭ prajekt novaha zakonu ab ziamielnaj reformie. Dahetul prajekt hety lažyć nia vyrašany. Ale ab im pamiatajuć jak sialanie, tak i šlachta. Heta apošniaja razumieje, što nia zmoža ŭžo ŭtrymać usich svaich majontkaŭ i navat samaachvotna častku hetych majontkaŭ adstupiła-b za apłatu, jakuju vykarystała-b na papravu rešty svaich dvaroŭ. Ale heta samaja šlachta razumieje, što na ziamli tut sprava nie astanovicca — pojdzie dalš: sialanie, uzmacavaŭšysia haspadarča, buduć damahacca naležnych sabie pravoŭ palityčna-hramadzkich. Baicca hetaha madziarskaja šlachta, i choć razumieje, što spravu prajhraje, to adnak usimi siłami starajecca pradoŭžyć svajo panavańnie, vyšukivajučy ŭsiakija pryčyny, kab tolki adłažyć na dalej razhladańnie novaha zakonu ab ziamielnaj reformie.

Možna adnak zusim peŭna śćvierdzić, što vola madziarskaha sialanstva, padmacavanaja socyjalnym stanoviščam, chutka pieramoža, i madziarski sielanin dastanie naležnuju jamu ziamlu, jakaja choć častkava palepšyć jahonaje žyćcio.

*„Čsl. Zemèd"*.

могуць быць заменены пашамі выпрадукаванымі ў гаспадарцы. Вымагае гэта, пэўна-ж, адпаведнага сарганізаваньня гаспадаркі; улажэньня такога севазвароту, каб расьліны багатыя на бялок (перад усім матыльковыя) займалі адпаведнае месца. Прыйдзецца, натуральна. сеяць іх больш і больш пад іх празначаць месца. Ня трэба баяцца, што з гэтага станецца якаясь там шкода. Прыйдзецца зьменшыць абсеў збожа (каласістага), але трэба памятаць, што матыльковыя расьліны гэта вельмі добры папярэднік на полі прад збожам, якое тады можа даць большы ураджай, хоць абсеены ім абшар будзе меншым. Дзеля таго што запас пашы, і то пашы багатай на бялкі, пры гэтым пабольшыцца, дык ад гэтага падыймецца прадукцыя малака і даходы з яго.

Трэба падчыркнуць з цэлым націскам, што нават маючы шмат пашы, трэба гаспадарыць ёй вельмі ашчадна. Часьць гэтай пашы трэба скарміць на зялёна, часьць высушыць на сена. Увосені белкавая паша, калі ня скорміцца на зялёна, павінна быць закішана.

З. К.

# Найчасьцейшыя недахопы лядоўняў

Другая палова зімы гэта ўжо ня зусім адпаведні час да звозкі лёду ў лядоўні, бо лёд цяпер ужо сітаваты і таму не доўгатрывалы. Тым большую ўвагу трэба зьвярнуць на самыя лядоўні, у якіх, перад усім пры малачарнях, псуецца і лёд найлепшы. Спэцыялісты ў гэтай справе вытыкаюць гэткія недастаткі большасьці нашых лядоўняў:

1. Дзюравыя стрэхі, праз каторыя зацякае ў сярэдзіну цёплая, багатая паветрам, вада;

2. Незабясьпечанае адцяканьне вады, што паўстала з растаіўшага лёду: лёд плываючы ў такой вадзе распускаецца далей;

3. Часта няма пад лёдам падкладкі з хрусту ці пілавіньня, якое не давала-б лёду стыкацца з вадой;

4. Сам лёд прылягае беспасрэдна да сьценаў, замест каб паміж ім і сьценамі быў пласт саломы ці таго-ж самага пілавіньня 30 см. угрубкі;

5. Сьцены лядоўні бываюць за тонкія, неабложаныя матар'ялам ізоляцыйным (торфам, сечкай, мякінай, лістамі), які перашкаджаў-бы праніканьню цёплага паветра;

6. Уход у лядоўню часта робіцца не з паўночнай стараны і ня мае падвойных дзьвярэй, а калі гэтыя дзьверы і ёсьць, дык сенцы не запоўнены туга набітай саломай.

7. Тонкая страха і непатрэбныя душнікі;

8. Ледзяныя кускі за малыя і ня шчыльна зложаныя.

Гэта недастаткі лядоўняў. А як-жа лёд перахоўваць правільна, асабліва, калі няма самой лядоўні.

На гэта ёсьць спосаб і то нават тады, калі ў гаспадарцы няма лядоўні Выручыць тут можа пілавіньне, якое мае тую добрую старану, што добра бароніць схаваны лёд ад доступу паветра і ўпівае ў сябе лёдавую ваду. На гэткі выпадак трэба выбіраць цяністае месца на прапускной глебе. Калі-б глеба была непрапускная, напр. гліна, глей, тады перш чым звазіць на яе лёд, трэба палажыць на тое месца пласт пілавіньня ў грубкі прынамся паўмэтра, на яго цесна класьці кускі лёду, засыпаючы шпары тым-жа пілавіньнем. На верх і па бакох зложанага ледзянога капца сыплецца ўзноў пласт пілавіньня, ці саломы, на каторы даецца торф і тады ўжо зямля. Даглядаць пры гэтым трэба, каб у земляной прыкрыўцы не рабіліся ніякія шпары, ці лепш сказаць, калі-б такія шпары сталіся, дык іх трэба зараз-жа нанова замазываць, каб тудою не даставалася да лёду паветра. Але і ў такой наскора заімправізаванай „лядоўні“ ня можна складаць лёду беспасрэдна на зямлю ці на пілавіньне: спачатку трэба палажыць пласт грубшага хрусту ці нават звычайны памост, праз які вада з лёду прасачывалася-б у спод і яго не размывала-б.

З гэтае-ж-ж самае прычыны такую капцаватую лядоўню трэба рабіць на лёгкім касагоры, з якога вада лягчэй сплывала-б, а каб пад лёд не падцякала вада зьверху, трэба каля верхняга берагу пракапаць і выбрукаваць адводны равок. Урэшце калі-б так сталася, што спаду ніяк зрабіць ня было можна, а спод такой лядоўні быў непрапускны, дык для адводу лядовай вады прыйшлося-б капаць сумысную малую студню.

*К. А.*

# Прыкопка дзічкоў на зіму і пасадка іх вясной у пітомніку

*(Даканчэньне)*

Месца пад пітомнік выбіраем больш роўнае, не на касагорах, зацішнае, пры вадзе. Зямля павінна быць ураджайная, чыстая ад пустазельля (сорных траваў), добра ўгноеная і на зіму заараная.

Ачышчаем зямлю ад пустазельля гэтак. За год да пасадкі на ей дзічак пры вясеньняй і асеньняй ворках ставім на палетку некалькі работніц з кошыкамі. Як толькі артай прагоніць плугом першую баразну, работніцы шагамі дзеляць яе на роўныя часьці, і кожная работніца на сваей часьці баразны выбірае карэньне, травы і складае яе ў кучы. — Кучы гэтыя потым звожваюцца ў адно месца, дзе складываюцца як стог і ляжаць там год—два, пакуль зусім ня згніюць і потым вернуцца на тую самую зямельку ўжо як гной.

Араць у пітомніку трэба глыбака і, калі ёсьць магчымасьць, за плугам пускаць паглыбяч, які ўзварушыў-бы зямлю глыбей ад плуга сантымэтраў на трыццаць. Перакопкі на перавал (папольску — ryglówki) цяпер нідзе у добрых пітомніках ня робяць, трымаюцца іх толькі людзі старога погляду. Перакопку на перавал на цэлым сьвеце замяняе глыбокая ворка.

Вясной, як толькі растае сьнег, зьбіраем усе лапкі з прыкрытых дзічак і пакуль зямля паміж дзічак адтае, зімовую ворку зямлі, як толькі яна трохі прасохне, барануем, стараючыся зубамі бараны засыпаць барозны.

Пасадку дзічак пачынаем вясной як найраней. Па абодвух папярэчных канцох грунту, гдзе будзем садзіць дзічкі, туга нацягваем шнуры, раўналегла адзін да другога і прыціскаем іх да зямлі кручкамі, зробленымі з сукоў дрэва. Потым нацягваем шнур уздоўж гэтага пляцу пад простым кутом да папярэчных шнуроў і прыціскаем гэты шнур, як і першыя два, драўлянымі крукамі да зямлі. Пры канцавых двух шнурах і ўздоўж кладзем доўгія простыя латы ці жэрдкі, па бакох якіх пароблены знакі (раўкі). На канцавых латах робім знак ад знаку на семдзесят ці восемдзесят сантымэтраў, а на тых латах, што кладуцца пры ўздоўж нацягнутаму шнуру, робім знакі адзін ад другога на трыццаць пяць ці сорак сантымэтраў.

Нарэзы на латах пры папярэчных шнурох паказываюць нам, на якой адлегласьці трэба нацягіваць адзін шнур ад другога, а нарэзы на латах пры шнурох уздоўж пакажуць, як далёка трэба садзіць адно дрэўца ад другога.

Калі думаем абрабляць пітомнік матыкамі ці так званымі спульхнячамі „Norcross," дык шнур ад шнура ўздоўж будзем нацягіваць на семдзесят сантымэтраў, а дрэўцы садзіць адно ад другога на трыццаць пяць сантымэтраў; калі-ж думаем зямлю абрабляць ручным плянэтам, дык рад ад раду павінен быць па восемдзесят сантымэтраў і ў радзе дрэўца ад дрэўца па сорак сантымэтраў. Уздоўж найлепей адразу нацягваць дватры і болей шнуроў і пры кожным шнуру лажыць не па аднэй лаце, а па тры-чатыры латы. Канцы латаў трэба шчыльна складываць, бо інакш рады з папярэчнай стараны ня будуць роўныя. Як болей уздоўж шнуроў нацягнута, а пры іх болей лат наложана, дык скарэй ідзе пасадка.

Пры саджэньні дзічак у пітомніку ўсюды патрэбна акуратнасьць. Шнуры ўздоўж трэба правідлова нацягіваць па знакох, туга і абавязкава прышпіліваць кручкамі, латы са знакамі на пасадку дзічак лажыць роўна, упіраючы канец першай латы ў папярэчны шнур.

Прыкапаныя дзічкі бяром за вярхі і асьцярожна выцягіваем іх з зямлі. Шыбкім рваньнем іх можам скалечыць карэньне. Выцягнутыя дзічкі йшчэ раз праглядаем; калі прыпадкова акажуцца сапсутыя, дык іх адкідываем, а ў добрых на адну трэцюю часьць адрэзваем сэкатарам ці нажом верх; скарачываем карэньне, каб у сярэднім былі даўжынёй ад дванаццаці да пятнаццаці сантымэтраў.

Пасадку заўсёды пачынаем ад першага сорту. Абрэзаныя дзічкі нясём да нацягнутых шнуроў, там ад сонца й сухавею накрываем іх старымі тоўстымі пасьцілкамі ці проста прыкапываем іх зямлёй. Пасадку найвыгадней рабіць партыямі па два чалавекі ў кожнай. Адзін бярэ ў рукі лапатку, а другі дрэўца і падносе яго да латы, становіць на

зямлі насупраць самога знака на лаце і ў дзесяцi сантымэтрах ад шнура — і распраўляе на бакі карэньне. Першы работнік знача лапатай з чатырох старон каранькоў шырокасьць ямкі, якую адразу і капае. Берагі ў ямцы павінны быць абавязкава стацьцявыя, а ня ўкосныя. Па сярэдзіне ямкі насыпаецца копчык, на які ставіцца дзічка, карэньне распраўляецца, абсыпаецца зямлёй і крыху ўтаптываецца. Пры пасадцы трэба глядзець, каб карэньне ня было задзёрта ўверх. Калі зямля была заарана на зіму, а вясной толькі забаранавана, дык садзіць дзічкі трэба на два-тры сантымэтры мялчэй, чым як яны расьлі да гэтага часу. Калі-ж зямля ў пітомніку арана вясной, дык дзічкі садзіць трэба на чатыры-пяць сантымэтраў глыбей, чым дзічок рос дагэтуль. Садзім глыбей дзеля таго, што зямля асядзе, і карэньне апынецца на версе. Калі які дзічок мае корань добры, а пень крываваты, дык садзіць трэба яго так, каб крывізна была выхілена да суседняга дзічка, але ні ў якім выпадку ў сярэдзіну, да баразны, бо выхіленыя дрэўцы ў міжрадковых барознах моцна перашкаджалі-б у працы і псавалі-б сам выгляд радоў.

Скончыўшы садзіць першы сорт, садзім другі. Пасаджаных дрэўцаў паліваць ня трэба: зямля йшчэ даволі сырая і ўсе дрэўцы без паліўкі прыжывуць.

З пасадкай ніколі ня можна пазьніцца. Чым раней пасадзім, тым будзе лепш.

Пасьля пасадкі дзічкоў зямлю на ўсей плошчы пасадкі трэба безадкладна ўспульхніць сантымэтраў на пяць-восем. Няўспульхненая зямля хутка ўсохне, моцна сьцьвярдзее, потым трудна будзе даць ей раду і дзічкі праз гэта могуць вельмі ўцярпець.

Калі споўнім усе правілы пасадкі, рады будуць простыя, дрэўцы будуць расьці добра, пітомнік будзе душу радаваць ня толькі ўласьніка ягонага, але й чалавека чужога. Калі хто пажалее трэці сорт зьнішчыць і захоча гэныя дзічкі пасадзіць, дык садзіць іх ня можна ў пітомніку, гэта знача ў тым месцы, дзе будзем іх прышчэпліваць і гадаваць аж да выкопкі на продаж ці пасадку для сябе, а трэба іх пасадзіць у тым мейсцы, гдзе гадуем першы год дзічкі, на такіх-жа загонах і так-жа густа, як расьлі яны ў прошлае лета.

Праз ўсё лета ў пітомніку дзічкі трэба часта палоць і па кожным большым дажджы ўспульхняць зямлю. Так дагляданыя дзічкі ня будуць баяцца сушы і будуць добра расьці.

Кожны год у часе ўпалаў пад дрэўцы пладовыя нападае масава травяністая тля (папольску — mszyca zielona). Барацьба з ёй ня ёсьць труднай. Спосаб барацьбы падаю той самы, што і пры гадоўлі ў першым годзе дзічак. Як толькі заўважым травяністую тлю на дрэўках, трэба безадкладна зрабіць раствор з трыста грамаў сьпірту-дэнатурату і дзевяцёх з палавінай літраў летняй вады, дадаць семдзесят пяць грамаў зялёнага (шэрага) мыла, усё дакладна перамяшаць. Пакуль мыла не распусьціцца, наліць раствору ў няглыбокую міску ці талерку, падхадзіць да дрэўцаў, на якіх ёсьць тля, нагібаць іх у пасудзіну і паласкаць у растворы. Калі пасьля паласканьня скора здарыцца дождж, дык паласканьне трэба паўтарыць. — Гэты спосаб проціў тлі заўсягды сам ужываю ў сябе ў школцы і ўважаю яго самым лепшым і выгаднейшым. Прыгатаўляць яго можам менш, ці больш, гледзячы, колькі трэба.

Сьпірт і зялёнае (шэрае) мыла трэба загадзя прызапасіць, а не тады старацца, як на дрэўцах будзе поўна тлі. Калі не вясьці барацьбы з зялёнай тлёй, дык яна размножыцца масава, на дрэўцах пакруціцца лісьцё, верх і ўсе сучкі скрывеюць, дрэўца перастане расьці, кара прысохне к пню, само дрэўца застанецца не заачкованым і ўласьнік пітомніку панясе вялікую страту.

У часе кожнага палоньня зямлю ня трэба адкапываць ад карэньня, а наадварот, трэба з баразной падкапываць да радкоў дрэўцаў.

Ніколі і нікому ня раджу садзіць дзічкі ў пітомніку восеньню. Маразы нашы ў большасьці выпадкаў моцна выцягіваюць карэньне дзічак з зямлі і падмаражываюць іх.

Вот і ўсё тое, што меўся і хацеў сказаць аб капаньні, сартаваньні, прыкопцы дзічкоў на зіму, пасадцы іх вясной ў пітомнік і даглядзе за імі праз лета.

Аб ачкаваньні напішу пазьней.

**Іван Сікора.**

8 студня 1938 году,
Вёска Алашкі Малыя,
п-та Полава, (Polowo) Пастаўскага павету.

# Якія суды што судзяць?

Сягоньня ў Польшчы ёсьць суды: *гарадзкія („grodzkie“), акружныя, апэляцыйныя* і *Суд Найвышэйшы.*

I. Найбліжэйшым судом ёсьць суд гарадзкі, перш называны міравым („*sąd pokoju*“). На абшары кожнага павету ёсьць звычайна 1—3 гарадзкіх судоў, пры гэтым кожны такі суд мае дакладна агранічаны для сябе абшар, які ён абыймае. Гарадзкія суды разглядаюць справы як цывільныя, так і карныя. Трэба аднак ведаць, што да компэтэнцыі гарадзкіх судоў належаць толькі справы дробныя, пайменна:

1. З справаў цывільных:

а) справы маемасьці, вартасьць якой ня вышэйшая тысячы залатовак,

б) справы падзелу, калі вартасьць дзеленай маемасьці не перавышае пяцідзесяці тысяч зал.;

в) усе справы аб алімэнты для няшлюбных дзяцей і іхніх матак;

г) усе справы вынікаючыя з умовы аб найманьні (памешканьня, будынку);

д) усе справы нарушанай ці ўтрачанай маемасьці.

2. З справаў карных Гарадзкія суды разглядаюць праступкі, за каторыя закон прадбача кару турмы да двух гадоў ці штраф, або абедзьве гэтыя кары разам.

3. Акрамя таго Гарадзкія суды могуць разглядаць г. зв. справы акцызныя, але гэта ўжо як апэляцыя ад пастановаў адпаведных акцызных уладаў. Напр. скарбовыя ўлады наложаць на некага штраф за нелегальнае засейваньне тытуну ці за гнаньне самагонкі, а пакрыўджаны ўважае, што такая пастанова яго крыўдзіць бяз віны; тады пакрыўджаны мае права адклікацца ў суд (гарадзкі), які гэту справу разглядае і выдае аб ёй адпаведны прыгавар.

II. Акружныя суды разглядаюць справы дваякага, а нават траякага характару: а) як скаргу ад прыгавару суду гарадзкога (цывільныя і карныя), б) як самастойныя суды першай інстанцыі да важнейшых справаў, якія ня можа судзіць суд гарадзкі і в) ўрэшце як суд гандлёвы. Ад прыгавару акружнога суду, калі ён разглядаў справу прад тым ужо суджаную ў судзе гарадзкім, можна адклікацца ў Суд Найвышэйшы (касацыя!), але толькі ў пэўных выпадках (напр. пры справе цывільнай, калі прадмет спору ацэнены на больш як 500 зл.).

Як першая інстанцыя Акружны Суд разглядае справы цывільныя, калі прадмет спору ацэнены панад 2.000 зл., або справы карныя, калі за разглядаемае праступства закон прадбача кару больш 2-ух гадоў турмы. Урэшце трэба зазначыць, што ў справах цывільных, якія ў першай інстанцыі разглядае Акружны Суд, абавязвае г. зв. адвакацкі прымус. Гэта знача, што падаваць у суд жалабу і бараніць яе на самай судовай расправе можа толькі адвакат.

III Апэляцыйныя скаргі ад прыгавараў Акружнога Суду можна падаваць у Суд Апэляцыйны. Выразна пры гэтым трэба зазначыць, што ў Апэляцыйны Суд можна адклікацца ў такіх справах, якія першы раз разглядаліся ў судзе акружным. Для тых-жа справаў, якія першы раз разглядаліся ў судзе гарадзкім, апэляцыяй будзе суд акружны; таксама як суд гарадзкі будзе судам апэляцыйным ад штрафаў ці іншых караў наложаных напр. акцызнай управай. Для Віленшчыны, Наваградчыны, часьці Палесься і Беласточчыны Апэляцыйны Суд знаходзіцца ў Вільні.

IV. Урэшце, як найвышэйшая судовая інстанцыя ёсьць адзіны ў Польшчы Суд Найвышэйшы (касацыя), які знаходзіцца ў Варшаве. У гэты суд можна ўнасіць жалабы (толькі праз адваката) на прыгавары:

а) выданыя Судамі Апэляцыйнымі і

б) Судамі Акружнымі, калі яны абжалаваную справу разглядалі так-жа як скаргу ад прыгавару Суду Гарадзкога.

*„Zjedn.“*

# Дробныя рады

## Адшкадаваньне за жывёлу паўшую з яшчура.

Аб яшчуры, як заразнай хваробе нашай свойскай жывёлы, мы ўжо пісалі ў апошнім нумары (за м-ц студзень сёл.) „Самапомачы." Хвароба гэта яшчэ, праўда, тымчасам далёка ад нашых беларускіх вёсак. На ўсякі выпадак аднак і селяніну нашаму трэба ведаць, што калі-б нейкім спосабам гэта хвароба дасталася й да нас, дык закон абавязвае кожнага аб гэтым паведамляць сваю гміну (войта, солтыса) ці найбліжэйшую паліцыю. Устаноўлена пры гэтым, што калі хто паведаміць аб выпадку прэз 24 гадзіны як толькі сьцьвердзіць заразу, дык тады хоць-бы жывёла і пала, або калі ўлада загадае такую жывёлу зарэзаць, дык уласьнік ейны дастане як адшкадаваньне 75 прац. ейнай вартасьці; калі карова, напрыклад, каштавала 160 зл., дык ашкадаваньне за яе будзе 120 зл. Выразна аднак зазначаецца, што такое адшкадаваньне дастане ўласьнік толькі тады, калі аб хваробе паведаміць не пазьней як праз 24 гадзіны ад часу, калі хваробу заўважыць.

## Пасьвяточная хвароба коняў.

Гэтак называецца хвароба, якая паўстае ў рабочых, добра кормленых, коняў, калі яны дзень-два пастаяць у хляве бяз працы. Беспасярэдняй прычынай гэтае хваробы бывае празябленьне і рэўматычнае запаленьне мышцаў, з якіх выдзяляецца чырвань падобная да чырвані крыві. Гэта чырвань дастаецца ў кроў, з каторай пасьля выдзяляецца разам з мачой, якая становіцца пры гэтым цёмна чырвонай ці нават рудаватай, як чэколяда.

Хворыя на запаленьне мышыцы разслабляюцца, а нават зусім становяцца бязуладнымі, асабліва ў задняй часьці цела. Хвароба аб'яўляецца часта зусім неспадзеўкі і асабліва бывае прыкрай, калі станецца ў дарозе, у марозную пагоду: няма тады іншай рады, як наладаваць жывёлу ў воз і везьці гэтак дамоў. У лягчэйшых выпадках жывёла здаравее праз 1—2 дні, у цяжэйшых — хвароба трывае даўжэй, а бываюць выпадкі, якія канчаюцца і сьмерцю.

Што рабіць у такім выпадку?

Агульнае правіла — лягчэй ад хваробы сьцерагчыся, чым з яе лячыцца. Выяжджаючы ў дальшую дарогу ў марозныя дні, перш чым запрагаць каня, трэба яго сагрэць: конь спачатку выводзіцца надвор, абводзіцца колькі разоў на абрыці па панадворку і пасьля на кароткі час уводзіцца назад у канюшню. Гэтак сагрэты конь вытрымоўвуе бяз шкоды пасьля ў дарозе і вялікшыя маразы. Калі-ж міма ўсяе асьцярожнасьці хвароба ўсё-ж дыкі зьявіцца, дык хворую жывёлу трэба зараз-жа памясьціць у цёплай канюшні, добра (груба) і суха падасланай і прыкрыць нечым цёплым (коўдрай, суконнымі посьцелкамі), каб выступілі поты. Старацца пры гэтым трэба дастаць моч; калі гэта не ўдаецца спосабам звычайным, дык трэба застасаваць катэтар, або рукой сьціскаць мачавы пузыр з боку адходнай кішкі. Агульнае апаражненьне таксама тут патрэбнае, хоць-бы да гэтага прыйшлося застасаваць прачышчаючыя сродкі. Карміць хворую жывёлу трэба ўмяркавана і нават слаба, менш даваць сена, улетку добра дзеіць зялёная сырая трава. Пойла заўсяды добрае, калі да яго дадаць атрубоў.

*Pierasyłka apłačana ryčałtam.*



# *У прыклад іншым*

*Рэдка выходзіць „Самапомач“, яшчэ радзей удаецца ёй пісаць аб коопэрацыі. Беларускія коопэратывы аднак знаюць наш часапіс і як толькі могуць, нас успамагаюць.*

*Найнавейшы доказ: зусім бяз заклiку, а з уласнага толькі пачыну, тры нашы вясковыя коопэратывы (назову іх, на выразнае жаданьне, не падаём — Рэд.) за м-ц студзень на агульных сходах пастанавілі, найакуратнейшым сваім сябром-кліентам, замест зваротаў за закупы ці проста за акуратнасьць у мін. годзе выпісаць на цэлы 1938 год „Самапомач“ на рахунак коопэратывы. Адна коопэратыва гэтак выпісала для сваіх сяброў 30 экзэмпляраў „Самапомачы“, другая — 20 і трэцяя — 16. Усім паказаным „Самапомач“ ужо высылаецца.*

*Рэдакцыя „Самапомачы“ шчыра дзякуе за падмогу матарыяльную, яшчэ больш аднак цешыцца з падмогі маральнай: гэтыя масавыя падпіскі — не гаворачы тут аб стасаваных намі дагэтуль „дзесятках“ — гэта нязьбіты доказ высокага грамадзкага дасьпяваньня нашай вёскі і здаровага пагляду на значэньне свайго роднага беларускага слова.*

*Гэткай сьведамасьці нам трэба больш, шырэй, а тады — жыцьцё мусіць стацца сьвятлейшым.*

*Беларускія сябры коопэратываў! Памятайце аб гэтым на сходах сваіх коопэратываў!*

*Рэдакцыя „Самапомачы“.*

# Гаспадарская хроніка

**Яшчур набліжаецца.** Небясьпека заразнай хваробы яшчура зьбліжаецца. Беластоцкае ваяводзтва аб'явіла абшары прылягаючыя да нямецкай і літоўскай граніцаў як загрожаныя і таму наказала ўсе сродкі асьцярожнасьці.

**Парцэляцыя.** Рада Міністраў на паседжаньні 11 г. м. ў Варшаве зацьвердзіла праект пляну парцэляцыі на 1939 год. Плян гэты абыймае для ўсяе Польшчы 15.000 га грунтоў казённых і 132.000 га грунтоў прыватных.

**Уводзяць гадаўляны закон і для авечак.** Віленская Земляробская Палата зьвярнулася да Міністэрства Земляробства і Зямельных Рэформаў, каб яно налажыла абавязак стасаваньня гадаўлянага закону да авечак у гэтых мясцовасьцях: гміны Дакудаўская і Івейская— Лідзкага пав.; Астраўская і Дабрамыская — Баранавіцкага пав.; Бытэньская— Слонімскага пав.; Неманчынская, Варнянская і Гервяцкая — Віленска-Троцкага пав.; Слабодзка-Жасьнянская — Пастаўскага пав.

**»Нарачанскі павет.«** Ведамае на ўсю Эўропу, а навет і сьвет возера Нарач знаходзіцца, як ведама, у Пастаўскім павеце. Вот-жа Турыстычная Камісія гэтага павету пастанавіла анагдай зьвярнуцца ў Паветавую Раду („соймік“) з прапановай, каб яна зьмяніла назоў гэтага павету з Пастаўскага на Нарачанскі. Ці паветавыя ўлады на далей астануцца ў Паставах ці будуць таксама перанесены — і куды — тымчасам яшчэ няведама, як няведама йшчэ і пастанова Паветавай Рады аб зьмене самага назову.

„Самапомач“ выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач“: на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл.).Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.
Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС“
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.

БЕЛАРУСКАЯ ЗЕМЛЯРОБСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 4

# САДОЎНІЦКАЯ ЧЫТАНКА

Зборнік артыкулаў аб гадаваньні садовых дрэваў, аб даглядзе іх і абароне ад усялякіх шкоднікаў



Бясплатны дадатак да „САМАПОМАЧЫ“

ВІЛЬНЯ — — — — — — — — 1938 ГОД

## Да Паважаных Падпішчыкаў і Чытачоў „Самапомачы” за 1938 год.

У гэтым нумары „Самапомачы“ пачынаем друкаваць сыстэматычна ўложаныя артыкулы аб садоўніцтве: спосабе атрыманьня дзічок, прышчэпліваньні іх, гадаваньні, перахоўваньні, аб найчасьцейшых хваробах і спосабах абароны ад гэтых хваробаў. Спосаб друкаваньня так абдуманы, каб акуратны чытач „Самапомачы“ з кожнага нумару часапісу мог выбіраць сярэднія дзьве картачкі і складаючы іх адну да другой так, як паказвае нумарацыя бачынаў, атрымаў у канцы каштоўную кніжку, якой дагэтуль у новай беларускай літаратуры яшчэ ня было, і якая ў асобнай прадажы будзе каштаваць лішніх пару грашоў.

Паведамляючы аб гэтым нашых Паважаных Чытачоў, зьвяртаем іхнюю на гэта ўвагу і просім, каб яны ва ўласным інтарэсе ўсе самі пасьпяшыліся з падпіскай на „Самапомач“ і намовілі да гэтага сваіх суседзяў і знаёмых.

Рэдакцыя «Самапомачы.»

15.II-1938 г.

Бел. Друк. ім. Фр. Скарыны Вільня, Завальная 1—2

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ.

*Здаўна адчуваўся ў нас недастатак сваей беларускай фаховай літаратуры аб садоўніцтве і агародніцтве. Недастатак гэты сягоньня, калі з прычыны нячуванага дагэтуль раздрабленьня сельскіх гаспадарак зацікаўленьне садам і агародам узрасло яшчэ больш, стаўся асабліва вострым.*

*Аб справах садоўніцтва шмат пісалі беларускія садаводы ў розных гаспадарскіх беларускіх часапісах, апошнім часам асабліва ў „Самапомачы.“ Нікому з гэтых людзей аднак дагэтуль не пазволілі штодзенныя іхнія абавязкі сабраць усё напісанае ў адно цэлае дзеля карыстаньня ў практыцы. Вот-жа, каб хоць у малой частцы здаволіць гэтыя з кожным днём нарастаючыя патрэбы, „Самапомач“ і пастанавіла сабраць гэтыя артыкулы ў адну кніжку. Будзе гэты зборнік тымчасам дарадчыкам для садаводаў пачынаючых, а практычных садаводаў можа узахвоціць да напісаньня аб садаводзтве падручніка сыстэматычнага*

*Гэтым кіруемся выпускаючы ў сьвет гэты наш зборнік самастойных артыкулаў аб садоўніцтве.*

*У добры час!*

*Выдавецтва „САМАПОМАЧЫ“*

# Зьбірайце зярняты дзічак!

Бязлікае мноства ўсякага дабра вымыкаецца з рук нашага чалавека дзеля таго толькі, што ён нясьведамы вартасьці і спосабу застасаваньня тых шматлікіх, на пагляд дробных і непаказных магчымасьцяў, якіх поўна ў штодзенным ягоным жыцьці. Выкарыстаць гэтыя магчымасьці значыць знайсьці ключ да свайго дабрабыту. Вось-жа аднэй з такіх нязнаных для агулу „магчымасьцяў“ зьяўляюцца зярняты з пладоў такіх дзічак, як яблыні, йгрушы, сьлівы і г. д.

Гэтых зярнят поўна ўсюды і яны аднак валяюцца і гінуць бескарысна. А трэба ведаць, што з гэтых якраз зярнят здольны вырасьці найлепшыя, найсільнейшыя падкладкі пад будучыя ўшчэпы і самыя пладовыя дрэвы. Дык хай-жа ня згіне дарма ніводная дзікая ці нават мала палепшаная йгрушка, ніводзін яблык! Малая з іх была карысьць спажыўная, дапоўніць яе мусіць карысьць гадаўляная. Як гэта праводзіць?

**Як дастаць зерне**

Перад усім ядучы такія дзічкі, калі толькі яны сьпелыя, ня трэба іхных зярнят марнаваць, але старанна, зярнё да зярняці, зьбіраць. А нават калі-б так сталася, што дзічкі загніюцца, дык зярнё ўсё роўна можа і сапраўды бывае добрым. Больш таго: калі-б можна было нейдзе дастаць плады — дзічкі сумысьля на развод, дык дастаць з іх зярняты найлягчэй так, што самыя плады (йгрушкі, яблыкі) накладаюць у кучкі, каб яны загніліся. Тады іх расьціскаюць, а самыя зярняты выпаласківаюць вадой.

Або можна йшчэ паступаць гэтак: закапаць у хляве (дзеля цяпла) меншую ці большую бочку і кожны пласт дзічак у ёй перасыпаць пластам зямлі. Калі яны добра перагніюць, выбіраем іх на рэшата і пераціраем рукамі, паліваючы вадой. На рэшаце астануцца чыстыя зярняты. Перасушываем іх на сітах ці рэшатах (толькі ня ў печы) і трымаем да часу прадажы ў сухім месцы.

Так ці гэтак атрыманыя зярняты (тое самае і з „костачкамі“ сьлівак, вішняў) трэба злёгка прасушыць, разлажыўшы іх у правеўным месцы (але не на сонцы!) на стале на дні тры часу. Пасьля гэтага зерне бывае ўжо гатовым да засеву; звычайна аднак ня сеецца, а пакідаецца да вясны, бо ўвосені засеенае зерне падлягае шмат якім небясьпекам. Між іншым на такое зерне вельмі ласы мышы; а ў нас да таго небясьпечны і маразы. Дзеля таго звычайна сяўбу адкладаюць да вясны, а самае зерне адпаведна перахоўваюць. Калі-ж бы нехта хацеў абавязкава сеяць дзічкі ўвосені, дык мусіў-бы самае семя дзічкі прад сяўбой ад мышэй добра абсыпаць аптэчным парашком мінія (на кілё зярнят 20 грам мінія).

**Перахоўваньне зярнят** Перахоўваньне зярнят праз зіму да вясны выглядае гэтак: у скрынку ці якую йнакшую судзіну з прадзюраўленым дном сыплецца пласт тоўчанага драўлянага вугля, ці пяску да грубіні двух пальцаў; на гэта сыплецца пласт зярнят дзічак да грубіні аднаго пальца, тады вогкі пясок на грубіню двух пальцаў, узноў зярняты — на адзін палец і г. д., аж покуль усё з верху ня прысыплецца пластом вогкага пяску, а на яго йшчэ — ялаўцовымі калючкамі (ад мышэй). Покуль няма маразоў, гэткую скрынку трымаюць у халаднавым, цёмным месцы, бясьпечным ад мышэй. Час ад часу трэба пры гэтым паглядзець, ці ня высах зусім пясок і калі так, дык трэба яго зараз жа паліць вадой. — Цесна перад маразамі ўстаўляецца скрынка з зернем у загадзя прыгатаваную яму на такую глыбку, гдзе-б не дасягаў ма-

роз (1 м.), абстаўляецца ялаўцовымі і яловымі лапкамі (не саломай!) і закопываецца.

**Засейваньне і пікаваньне.** Засяваюцца дзічкі вясной на глебе дакладна вычышчанай з пырніку, лебяды яшчэ з восені побра выгнаенай. Успульхненую ральлю раўнуюць, праводзяць роўныя няглыбокія, бо толькі 4 см. раўкі, і ў іх густа засяваюць дзічкі. Раўкі разьмяшчаюцца на адлегласьць больш-менш 15 см., засееныя зярняты прыкрываюцца загадзя прыгатаваным чорназёмам, каторы пасьля дошчачкай лёгка йшчэ прыбіваецца.

Гэтак засееныя дзічкі хутка пачынаюць усходзіць і тады прыходзіць час першага перасаджваньня, або школкаваньня. Робіцца яно па тое, каб змусіць маладую ўжо дзічку пускаць больш каранёў ушырку, замест дагэтуляшняга аднаго толькі караня ўглыбку. Работа выглядае гэтак. Загадзя трэба прыгатаваць градку добрай, чыстай зямлі, на 50 см. (дзьве лапаты) добра перакапаць і пакінуць яе, каб зляглася. Выраўнаваўшы верх гэткай градкі, трэба на ёй шнуром зрабіць лініі — з поўначы на поўдзень — ад сябе адлеглыя ўжо на якіх 30—50 см., на каторыя ў радок і садзяцца асобныя калівы дзічак у ямкі, зробленыя калочкам, адно ад другога на якіх таксама 30-40 50 см.; чым лепшая зямля, тым гусьцей і наадварот. — Калі дзічкі – высеўкі ўжо ўзойдуць і пакажуць першыя два лісткі, тады нечакаючы трэба іх перасаджываць. Малой лапаткай падважываецца часьць засеенага радка, скора — каб не павялі — але асьцярожна выбіраюцца па аднаму каліву дзічкі, пазногцем ці нажом абрываецца на адну траціну галоўны корань і заразжа садзіцца ў ямку ды добра абціскаецца зямлёй. Як глыбака садзіць, гэта залежыць ад таго, ці ўскапаная зямля ўжо мела час асесьці, ці йшчэ не: там, дзе зямля ўжо асела, ня трэба садзіць высеўку глыбей, як яна сядзела на першай градцы, прад перасаджваньнем. Калі-ж зямля йшчэ не асела, дык трэба садзіць глыбей (як капусту), каб пасьля саджаная дзічка не „павыла-

зіла.“ Само перасаджваньне найлепш рабіць у пахмурны дзень. Калі-ж пагода стаіць добрая, а перасаджваць ужо пара, бо йнакш каліўцы дзічак здзеравянеюць, дык тады такую работу трэба рабіць прынамся пад вечар, а самую градку з перасаджанымі дзічкамі— пазакрываць галузкамі ялінкі ці ялаўцу, каб не прыпякло сонца.

**Дагляд.** Гэтак перасаджаную дзічку ня можна пакідаць без дагляду: трэба палоць градку ад усякага пустазельля, паліваць, 3 4 разы матыкаваць зямную скарынку між радкоў, а прыкрыцьцё ад сонца можна зьняць тады толькі, як перасаджаныя каліўцы пусьцяць ужо новыя лісткі (праз 3—4 тыдні). Каб рост прысьпяшыць, да вады да паліваньня двойчы ў тыдзень дадаецца адна трэцяя часьць мачавой жыжкі, або разведзенага каравячага гною. Мясцамі практыкуецца замест паліваньня, перакладаньне радкоў дзічак звычайным гноем па версе: мае гэта аўтоматычна бараніць самыя дзічкі ад лішняй сьпякоты ў пагодныя дні і карміць іх выпаласківаным гноем падчас дажджоў. — Што лепш — хай выпрабуюць самі гаспадары-садаводы.

Гэтак дагляданыя дзічкі праз лета звычайна дасягаюць ужо грубіні алаўка, а нават пальца, асабліва яблыні і чарэшні; сьлівы і йгрушы растуць значна вальней. Слаба вырасшыя дзічкі яблыні і чарэшні, а таксама ўсе звычайна йгрушы ды сьлівы пакідаюцца на градцы йшчэ на другі год. Затое добра разьвітыя дзічкі (яблыні, чарэшні, а пры цёплым вогкім леце — і йгрушы выкопываюцца ўзноў, зразу абрываюцца з лістоў, сартуюцца, вяжуцца ў пучкі па 10, 50, 100 штук і прысыпаюцца зямлёй да часу паўторнага, другога перасаджваньня (школкаваньня). Слабейшыя дзічкі можна пакідаць на градцы, або і перасаджываць, але на такой самай адлегласьці ад сябе, як і ў годзе папярэднім. Толькі двойчы перасаджваныя дзічкі бываюць здольнымі ўжо да прышчэпліваньня, якое найлепш праводзіць вясной (м-ц красавік). В. Р.